Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

Цана 15 гр.

# НАША ВОЛЯ

БЕЛАРУСКІ НЕЗАЛЕЖНЫ ДВУТЫДНЁВЫ ЧАСАПІС

Рэдакцыя і Адміністрацыя: Вільня, Татарская вул. 15-1

Рэдакцыя прыймае: ад гадзіны 12 — 16
Рэдактар: ад 14—16

Падпісная плата: у год 3 зл. за паў году 1,50 злот. квартальна 1 зл.

№ 5 (6) Вільня, 20 сакавіка 1936 г. Год I

## „Школьнае пытаньне на Віленшчыне".

Школьніцтва перажывае крызыс.

На гэтую тэму часта і многа пішуць. Многа рэцэптаў даецца дзеля паправы сытуацыі, але ад гэтага стан школьнай асьветы не мяняецца.

Для нас асабліва цікавымі ёсьць галасы польскага вучыцельства. Апрача пісьма, зьмешчанага у мінулым годзе у „Кур. Віленскім" з чэсным і прыхільным для беларускіх дзяцей трактаваньнем школьнай справы нейкай вучыцелькай, галасы з гэтага лягеру у большай ці меньшай ступені контра беларускія.

Асабліва характэрным зьяўляецца выступленьне нейкага Бранiслава Аўчыньніка у „Sprawach Nauczycielskich" (№5-1936 г.) у артыкуле „Школьнае пытаньне на Віленшчыне". Трэба зазначыць, што гэты артыкул ня мае ў сябе культурна-пэдагагічнага падыходу да справы. З рэштаю сам аўтар прызнаецца, што у працы школьнага вучыцеля на Віленшчыне ня можна нават застасаваць найнавейшых здабыткаў пэдагогікі і дыдактыкі. З гэтага ясна, што, уся школьная справа трактуецца выключна ў палітычнай плошчы.

Самы факт існаваньня культурна-асьветных арганізацый не польскіх, паводле „Spraw Nauczycielskich", ужо ёсьць палітыка, бо інакш ня можна зразумець дзівачных закідаў п. Аўчыньніка, напрыклад, літоўскім бібліятэкам, што яны ладзяць радыёвыя слухавіска, даклады, спэктаклі, нясуць лякарскую і праўную дапамогу. Хто-ж дапаможа селяніну, як не свая народная арганізацыя? Сам-жа аутар прызнае, что польскае грамадзянства, каторае складаецца з абшарнікаў або чыноўнікаў сваімі „велькопанскімі манерамі", толькі шкодзяць справам асьветы. Далей робіцца вывад:— Мы вучыцялі ня можам даць усяго таго, што дае селяніну яго арганізацыя і дзеля таго, каб аблягчыць нам выпаўненьне „спэцыфічных задань" (чытай паланізацыі), то трэба паміж іншым „усуваць з тэрэнаў меньшасьцёвых" тых людзей, якія сеюць неспакой у селянскіх асяродках, гэта значыць вядуць культурную працу ў той мове, якая самая блізкая для народу.

Вось вам і вырашэньне школьнага пытаньня. Гэта ужо нешта падобнае да шантэраўскіх концлягэраў для дзяцей школьнага веку!

Расправіўшысь з літоўскімі арганізацыямі п. Аўчыньнік „z kolei" пераходзіць да беларусаў. Сядае на замулянага коніка і са смакам падкрэсьлівае, што у беларуса бракуе (?!) народнай сьвядамасьці і што паміж кіраўнікамі беларускага народнага руху і сялянамі лягла прорва, якая усё паглыбляецца.—„Жыцьце беларускага „wieśniaka", як бы ачысьцілася ад вонкавых налётаў і прыняла свой „натуральны кшталт", — піша п. Аўчыньнік.

На чым аднак гэты „натуральны кшталт" палягае выясьненьня не даецца. Усім добра ведама, што на вёсцы пануе паўторны анальфабэтызм і зьвязаная з ім дэмаралізацыя. Ці-ж гэта мае быць той „кшталт", ад якога ў захопленьні аўтар.

Праўда робіцца невялічкая ўступка беларусам, прызнаваньнем культурных асаблівасьцяў за „ludem białoruskim". Але гэтыя асаблівасьці трэба агарнуць найбольшай „апекай", бо яны частка багацьцяў польскага народу.

Здавалась-бы маючы расчышчаны „тэрэн ад беларускіх нацыяналістаў", польскаму вучыцелю толькі зьбіраць плёны на на сялянскай ніве. Аж як раз аказалася, што недавер селяніна да польскіх установаў пераносіцца і на школу і кладзе таму паміж школаю і масамі. Чаму-ж гэта так? Пан Аучыньнік складае віну на чыноўнікаў адміністрацыі і самаўрадаў. Ня думем тут бараніць чыноўнікаў, але ці тыя вучыцялі, каторых думкі аўтар гэтага артыкулу выскаэвае, ёсьць лепшымі? Такі артыкул надаецца для палітычнага дэпартамэнту, а не для фаховага вучыцельскага часапісу. Гуманітарныя засады пэдагогікі не знаходзяць тут мейсца. Запоўнены ён рэцэптамі безагляднага „усуваньня", або выпадамі проці народнай пазашкольнай асьветы, проці радыё, бязплатнай газэты у бібліятэцэ і г. д. Што мае супольнага такі артыкул вучыцельскага часапісу з пэдагогікай? Маючы сілу можна ўсё „усунуць', але ад гэтага „тама" паміж нашым селянінам і панамі Аўчыньнікамі яшчэ большая вырасьце.

Далей аўтар старанна абмінае галоўнуную засаду пэдагогікі—родную мову навучаньня. Упадак школьнай асьветы будзе паглыбляцца, пакуль школа будзе мець на мэце не інтарэсы дзяцей, а „specyficzne zadania" ды „urabianie mniejszości" па рэцэптам Аўчыньніка. Гэта будзе заўсёды самае слабае мейсца школы і вучыцеля. Над пытаньнем школьніцтва так лёгка да парадку дня не пяройдзеш. Раз ёсьць народ — ён мусіць мець і сваю школу.

Чытаючы такія артыкулы ствараецца ўражаньне, што на нашых землях вучыцель — гэта тып рэакцыянера і то такога, які спазьніўся прысьці на сьвет што называецца на паўсталецьця.

## ЗА РОДНУЮ ШКОЛУ!

## АДОЗВА

### Да Беларускага Народу.

### ГРАМАДЗЯНЕ БЕЛАРУСЫ!

Цьвёрда і настойліва ідзе Беларускі народ да лепшае долі. Ня гледзячы на вялікія перашкоды, якія ляглі на дарозе, Ён будуе новае жыцьцё. Думка вызваленьня, думка жыць так, як і ўсе культурные народы жывуць, глыбака закаранілася ў народныя масы. Горад і вёска, сяляне і работнікі — ўсе сьведамыя Беларусы дружна ўзяліся да працы на роднай ніве.

Але каб збудаваць лепшую будучыню **трэба здабыць сваю родную беларускую школу.** Гэта разумеюць беларусы і ўжо ад многіх гадоў дамагаюцца сваей роднай школы.

### ГРАМАДЗЯНЕ БЕЛАРУСЫ!

Патрэбу вучэньня разумее кожны. Выпраўляць дзяцей у школу прыходзіцца ня толькі дзеля школьнага прымусу, але і дзеля таго, каб дзеці навучыліся чытаць і пісаць і каб здабылі патрэбную асьвету, бо цяжка цяпер жыць чалавеку без асьветы. Школа ў нашыя часы ёсьць неабходная, як дзеля духовых патрэб чалавека, так дзеля цяжкага штодзеннага змаганьня за кавалак хлеба. Чалавек без асьветы ў нашыя часы можа быць толькі слугойнявольнікам, якога слабасьць кожны выкарыстоўвае. У жыцьці-ж грамадзкім бяз добрай школы ня можа быць поўнага нацыянальнага і культурнага адраджэньня, ня можа быць і матарыяльнага дабрабыту.

БЕЛАРУСЫ! Наш ратунак — гэта наша родная беларуская школа. Гэта наш фундамэнт, на якім мы павінны будаваць новае лепшае жыцьцё! Цяжка нам сваей школы дабіцца, але ўсё-ж такі мы маем сьвяты абавязак усімі сіламі дамагацца, каб закон, які прызнае беларускую школу — быў праведзены ў жыцьцё. На падставе школьнага закону з дня 31.VII. 1924 г. усе Беларусы ў Віленскім, Наваградзкім, Палескім і часьці Беластоцкага ваяводзтваў маюць права дамагацца школ беларускіх на кошт казны. Патрэбныя толькі падпісы бацькоў на адумысловых дэклярацыях з дамаганьнем беларускае школы.

Бацькі Беларусы! Калі вы хочаце каб дзеці вашыя не выракаліся сваіх сярмяжных бацькоў, любілі мазольную працу, сваю мову, Бацькаўшчыну і ей служылі, калі хочаце вызваленьня нашага народу з путаў цемры і нядолі — дык **неадкладна дамагайцеся сваей беларускай школы.**

Беларуская школа ёсьць мілейшая і бліжэйшая да душы нашых дзетак, Навука ў роднай беларускай мове больш зразумелая для нашых дзетак. як у чужой мове.

Беларуская школа дае лепшую падгатоўку да жыцьця: яна ня ломіць душы дзіцяці, яна ўзбагачае розум новымі паняцьцямі і гэтым памагае яго разьвіцьцю. Беларуская школа ня толькі вучыць у роднай мове, але навучае і іншых моваў, якія патрэбны ў жыцьці, — словам, родная школа дае беларускаму дзіцяці ўсё, што будзе яму патрэбным у далейшым жыцьцёвым змаганьні.

**Дык для дабра нашых маладых пакаленьняў, для дабра ўсяго нашага Народу, кожны Беларус-бацька ці апякун дзяцей мусіць выпаўніць свой абавязак і ў гэтым 1936 годзе павінен падпісаць і падаць школьным уладам дэклярацыю на сваю родную беларускую школу!**

Па дэклярацыі, фармуляры і інструкцыі зварочвайцеся на адрас: **Школьны Сэкрэтар'ят, Вільня, Каралеўская 3—8.**

Вільня, 29 лютага 1936 году.

**БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ ГАСПАДАРКІ і КУЛЬТУРЫ** **ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ ШКОЛЫ**

## Вечар беларускай паэзіі і песьні.

Дня 15.III г. г. у салі Сьнядэцкіх віленскага унівэрсытэту адбыўся „Вечар беларускай паэзіі і песьні". Праграма вечару была сапраўды ўложана вельмі шырока, толькі паасобныя часьці мейсцамі былі нестаранна прыгатаваны, а таму — слаба выкананы. Праграма вечару была фармальна падзелена на тры часьці. У першай часьці быў рэфэрат Ст. Станкевіча на тэму: „Аб маладой беларускай паэзіі Зах. Беларусі". Рэфэрат быў не зусім старанна прыгатаваны: розьніцу паміж М. Васільком, М. Машараю і М. Танкам і Хв. Ільляшэвічам гр. Станкевіч бачыць толькі фармальную і вобразную. Праграмны рэфэрат на літэратурным вечары заўсёды павінен быць люстрам жыцьця і творчасьці песьняроў.

Другая часьць праграмы абымала аўторэцытацыі і рэцытацыі твораў, а трэцьцяя часьць — хор пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы. Гэтыя дзьве часьціны праграмы былі пастаўлены на вельмі высокім мастацкім роўні. Кожнага песьняра напоўненая народам вялікая саля вітала і праводзіла спантанічнаю бураю вокляскаў; а Максіма Танка студэнты схапілі на рукі і доўга з воклікамі славы падкідалі ў гору. Аўтарэцытацыі пачаў Міхась Машара, прачытаўшы некалькі сваіх новых і добрых вершаў. Сапраўды, М. Машара гэта вялікі песьняр бліз-

(Гл. на адвароце).

## Вечар беларускай паэзіі і песьні.

(Гл. 1 стар.).

кай будучыні, павінен толькі крэпкаю сілаю духа парваць усё тое павучэньне, якое яшчэ вязьніць ягоную творчасьць у задымленьні фалістага суму. Машараў верш „Званар“ — гэта рэдкі твор. Чытаў Машара свае творы даволі добра. Міхась Васілёк чытаў заціха (саля Сьнядэцкіх страшэнна мае кепскую акустыку — у ёй блага чуваць). Толькі мягкасць і глыбіня Васількоўых твораў, ягоная творчая праўдзівасьць і згоднасьць сапраўднасьці жыцьця з творам дае тую сілу, якую крые ў сабе Васілёк. Творы Хв. Ільляшэвіча павінен чытаць толькі тэатральны артыст. Ільляшэвіч гэта мастак іншае меры; ён ніколі сам не павінен чытаць сваіх твораў. Першую і вялікую славу перажыў малады Максім Танк. Танк заслужыў у поўнасьці таго, што ён перажыў у гэты вечар. Максім Танк гэта вельмі маладая, але сільная творчасьцяю індывідуальнасьць. Ягоная творчасьць вырасла ў вастрогах і, вырваўшыся з турмы, заліла Зах. Беларусь. Творы Танка — гэта лявіна, гэта бурная хваля, якая парывае ўсіх, трасе ўсім і ламае ўсё. Танк можа стацца вялікім песьняром Беларусі, калі не забудзе аб найважнейшай умове — згушчаць чым найбольш думку на палатне вобразу.

Творы Танка „Першы акт“ і „Спатканьне“—гэта хваля сьвежага паветра у Беларускай паэзіі. А. Бярозка не паказаўся на эстрадзе, хаця саля прасіла і чакала. Ягоныя творы другія прачыталі. Бярозка — здольны і сымпатычны песьняр з вялікім і нешчасьлівым багажом псыхолёгізму. Чым хутчэй Бярозка вызваліцца ад гэтага паралізуючага цяжару, тым скарэй узьляціць у выш сілы сваей творчасьці. Вельмі добра рэцытавалі вершы А. Дубовічанка і Ст. Мядоўскі.

Трэцьцяя частка праграмы абымала хор Р. Шырмы і солёвыя сьпевы Л. Сасноўскай і С. Савіцкага. Рыгор Шырма, ня гледзячы на страшэнна цяжкія абставіны нашага гаротнага жыцьця, чаруе ўсіх песьнямі беларускага хору. У гэтым ягоная—гістарычная заслуга.

Шкада толькі аднаго, што не маглі прыняць удзелу ў вечары „Паэзіі і песьні“ дзесяткі маладых беларускіх песьняроў, якія недзе далёка на родных вёсках пяюць Беларусі. *Ор.*

Ад рэдакцыі. Больш падрабязная справаздача аб вечары будзе зьмешчана у наступным нумары нашай газэты, які будзе прысьвечаны беларускай паэзіі і песьні.

### Новыя часапісы.

Вышлі з друку і прадаюцца часапісы: „Маладая Беларусь“, „Летапіс Т-ва Бел. Школы“ і „Калосьсе“. Дакладны агляд іх з прычыны браку мейсца будзе дадзены ў наступным нумары „Нашай Волі“.

**Чытайце і пашырайце сваю газэту.**

## Міжнародны агляд.

### Вайсковы бунт у Японіі

26 лютага ў 3 полку першай токійскай дывізіі, які пасылаўся на узмацаваньне квантунскай арміі, знаходзячайся ў Манджурыі, група маладых ахвіцэраў арыштавала камандзіра палка і перадала камандаваньне палком капітану Нанакі. Пасьля гэтага полк, паводле загадзя апрацаванага пляну, сілай заняў дзяржаўныя будынкі. Пасьля загаворшчыкі пачалі забіваць сяброў ураду і віднейшых палітычных деячоў з урадавага абозу: палі міністр фінансаў Такагашi, адм. Саіта, гэн. Ватанабэ і іншыя. Прам'ер Окада выратаваўся цудам. Пазасталыя сябры ураду схаваліся ў дварцу мікады. Урад абвясьціў ваенны стан. На прапазыку ўраду здацца паўстўнцы адказалі згодаю толькі пад умоваю, што новы ўрад павядзе больш актыўную імпэрыялістычную палітыку. Пасьля капітуляцыі бунтаўшчыкоў павадыры паўстаньня пакончылі самагубствам.

Бунт у Токіо выклікаў вялікае ўражаньне ува ўсім сьвеце. Нямецкая прэса спаткала яго дужа прыхільна і падчырківала свае сымпатыі да руху, які носіць выразна нацыяналістычны характар, і вельмі зьліжаны да руху нямецкага. У Бэрліне спадзяваліся, што будзе пагрозай для Масквы і можа нават адбіцца на зацьверджаньні француска-савецкага пакту. Прыхільна спаткала паўстаньне і Італія, якая разьвіцьцю падзей у Японіі прыпісывала вялікі ўплыў і на міжнароднае становішча Італіі. У Лёндане бунт выклікаў вялікае ўражаньне. Ангійская апіня, у зьвязку з напаружанай сытуацяй на Далёкім Усходзе, бачыла ў гэтым пагрозу вайны. Савецкая прэса, як падае „Газета Польская“, абгаварываючы падзеі ў Японіі піша, што тайныя вайсковыя фашыстоўскія арганізацыі Японіі могуць спакойна разьвіваць сваю дзейнасьць, дзеля таго, што сябры гэтых арганізацый акружаны ўарэоляй патрыятызму і меры справядлівасьці ў адносінах да іх ня бываюць суровымы.

Пасьля доўгіх нарад мікада даручыў стварэньне новага кабінэту дасельяшнему міністру заграінчных спраў Хіроту, які місію выканў ня гледзячы на тое, што вайсковыя кругі адмовілі яму ў супрацоўніцтве.

### Француска-Савецкі пакт.

Пасля 3-х тыднёвых дэбатаў французскі парлямант ратыфікаваў (зацьвердзіў) умову Францыі з СССР аб узаемнай вайсковай дапамозе ў выпадку нападу на адну з дагаварываючыхся старон. Зацьверджаньне пакту занепакоіла тыя дзяржавы, супроць захопніцкіх намераў якіх ён ськіваваны. Калі прыняць пад увагу, што падобны пакт ужо падпісаны паміж СССР і Чэхаславаччынай і апрача таго існуе прыпушчэньне, што будзе падпісаны такі самы пакт і паміж СССР і Румыніяй, дык стане зусім зразумелым, чаму Нямеччына гэтак рашуча выступала ўвесь час супроць толькі што зацьверджанга пакту. Пакуль на чале францускага ўраду стаяў Ляваль справа зацьверджаньня пакту не пасоўвалась. Па другое і Англія не выяўляла сваёй салідарнасьці з пактам і гэтым устрымлівала францускі ўрад ад яго зацьверджаньня. Пасля лёндынскіх і парыскіх гутарак, якія адбыліся пасьля хаўтур караля Георга V, намецілася зьліжэньне Англіі з СССР., што мела дадатні ўплыў і на справу фрацуска-савецкага пакту.

Сталася фактам, што ў Эўропе паўстала новая моцная вайсковая сіла, якая гатова з аружжам выступіць супроць магчымага нападу гітлероўскай Нямеччыны на адну з дагаварыўшыхся дзяржаў. Тактыка заігрываньня з Францыяй і Англіяй, не асягнула мэты. Гітлеру ня ўдалася недапусьціць зьліжэньня гэтых дзяржаў з СССР, на чым апіраў ён свае пляны „імкненьня на Усход“.

Абгаварываючы справу пакту, газэта „Работнік“ піша, „у сытуацыі, у якой апынулася Эўропа у сувязі з узбраеньнем Нямеччыны і яе заборчымі плянамі, француска-савецкі пакт зьяўляецца звычайным абаронным сродкам. Зразумела, што пакт гэты разам з іншымі падобнымі договарамі ня вырашае сцравы гітлерызму, не гарантуе нават пакою, але ў кожным выпадку паралізуе, хоць на некаторы час, апэтыты гітлерызму ў Эўропе“.

### Гітлер працягвае руку Францыі.

Француская газэта „Пары-Міді“ апублікавала размову свайго корэспондэнта з Гітлерам. Гітлер зварачываецца праз галовы ураду, бяспасярэдня да францускаго народу і запэўняе яго, што ён, Гітлер, ня мае ў адносінах да Францыі ніякіх захопніцкіх плянаў. Ён кліча французаў ня лічыць немцаў сваімі ворагамі і прыняць працягнутую руку. Свой зварот да францускага народу Гітлер канчае славамі: „будзем прыяцелямі“. Гэты зварот Гітлера, які меў на мэце стварыць сярод францускага грамадзянства апіню супроць француска-савецкага дагавору, быў прыняты ўва Францыі вельмі асьцярожна. Старшыня камісіі па заграінчным справам пры парлямэнце Поль Басьцід у гэтай спраае сказаў прыблізна наступнае: „Мы верым, што Гітлер не зьбіраецца нападаць на нас зараз. Мы згадзіліся-б вясьці з нім перагаворы, але на 2 варунках, 1-е: у межах пакту Лігі Народаў і 2-е, калі Гітлер забясьпечыць мір на Усходзе, таксама як і на Захадзе. Інакш мірныя прапазыкі Гітлера будуць азначаць — мір на Захадзе і свабода рук на ўсходзе. На гэта Францыя пайсьці ня можа. Такая палітыка была-б для яе самагубствам“.

Чаго была варта гэтая прапазыка чытач знойдзе ў іншым мейсцы.

## Гітлер ломіць міжнародныя трактаты.

Эўропа зноў пераживае трывожныя дні. Такога напружаннага палажэньня, як падае ўся эўрапэйская прэса, ня было яшчэ ад 1918 году ад таго часу, як скончылася сусьветная вайна.

Гітлер, які 11 месяцаў назад зламаў падпісаны Нямеччынай Вэрсальскі Трактат і ўвеў у Нямеччыне агульную абавязкавую вайсковую павіннасьць, зноў аднастароньня скідае з сябе абавязкі наложаныя на Нямеччыну іншымі пунктамі Вэрсальскага Трактату і Лёкарнскім пактам.

7 сакавіка, а 5 гадз. раніцай нямецкае войска заняла дэмілітарызаваную (разброеную) Надрэйнскую абласьць, чаго ня мела права рабіць згодна з успомнянымі дагаворамі. Свае выступленьне Гітлер тлумачыць падпісаньнем француска-савецкага дагавору аб узаемнай дапамозе, у якім бачыць нарушэньне Лёкарнскага трактату з боку Францыі, а па другое відзіць у падпісаным дагаворы пагрозу Нямеччыне.

У той самы дзень на паседжаньні Рэйхстагу Гітлер выступіў з вялікай прамовай, у якой стараўся ўматываваць свой шаг.

Спачатку Гітлер зхарактэрызаваў палажэньне Эўропы пасьля Версальскага мірнага дагавору, і тыя супярэчнасьці і несправядлівасьці, якія гэты дагавор унёс у справу мірнага сужыцьця народаў Эўропы дадаўшы пры гэтым што нямецкі народ не паносіць віны за сусьветную вайну, як і кожны іншы народ. Далей выявіў свае ад'емнае і варожае адношаньне да СССР. Пераходзячы да справы француска-савецкага дагавору Гітлер зазначыў, што Нямеччына ня мае намеру нападаць на ўспомняныя дзяржавы, але ў догаворы іх бачыць нябясьпеку для сябе і ня можа з гэтым фактам пагадзіцца. Дзеля гэтага лічыць, што падпісаньне ўспомненага дагавору знаходзіцца ў супярэчнасьці з Лёкарнскім пактам і прызнае гэты пакт ня існуючым і не абавязаючым больш Нямеччыну. Пасьля Гітлер прачытаў мэмарандум, які ў той самы дзень нямецкія паслы даручылі ўрадам заінтэрасаваных дзяржаў.

У гэтым мэмарандуме адзначана, што Нямеччына ня хоча, каб яе шаг быў няправільна вытлумачаны — і каб даць доказ сваіх мірных намераў прапануе распачаць зараз-жа перагаворы з Францыяй і Бэльгіяй аб стварэньні дэмілітарызаваных палос па абедзьвым старанам граніцы на роўных правох і зрабіць умову аб ненападзеньні на 25 гадоў. Гэтакія самыя ўмовы прапануе падпісаць з Галяндыяй і з Літвой. Згаджаецца, каб умовы былі падпісаны Англіяй і Італіяй, як дзяржавамі забяспечываючымі дагавор. Адначасна Нямеччына выражае згоду на ўваход у Лігу Народаў.

Францыя, якая зьяўляецца найбольш зацікаўленай у разгрываючыхся падзеях, спаткала нямецкія прапазыкі згодным і рашучым пратэстам. Урад згодна з трактатамі, якія зламала гітлероўская Нямеччына зьвярнуўся да Лігі Народаў з дамаганьнем скліканьня надзвычайнай сесіі Рады Лігі, каб прыняць сродкі, якія прадбачаны ў трактатах. Адначасна прэм'ер Сарро ў прамове праз радыё востра абвінавачыва Гітлера ў ламаньні падпісаных дагавораў і зазначыў, што „няма ўжо ў Эўропе міру і ня будзе магчымасьці ўтрымаць міжнародных стасункаў, калі гэтакія мэтады стануцца агульнымі“. На заканчэньне заявіў, што ўрад заняў у справе рашучае становішча і ня зыйдзе з яго ня гледзячы на ніякія пагрозы.

Уся француская прэса высказалася востра супроць выступленьня Гітлера і прызнала ў яго паступках пагрозу для справы міру. Левыя газэты, навязваючы выступленьне Нямеччыны з вайной італьянскага фашызму ў Афрыце і з мілітарыстычнымі плянамі японскага фашызму на Далёкім Усходзе, востра крытыкуюць тых французкіх палітыкаў, якія сваей палітыкай стваралі варункі спрыяючыя выступленьню нямецкага фашызму супроць справы міру. Новым мірным прапазыкам Гітлера ніхто не прыдае ніякага значэньня, лічучы, што ня можа быць гутаркі аб падпісаньні новых дагавораў з тым, хто наагул ня лічыцца з падпісанымі ім дагаворамі.

Англія ў гэтай справе заняла зусім іншае становішча. Прызнаючы, што Гітлер зламаў падпісаныя Нямеччынай міжнародныя дагаворы, Ідэн лічыць аднак, што трэба не спрачацца стаўшымся фактам, але шукаць новых шляхоў да паразуменьня і бачыць іх ў прапазыках Гітлера.

Італія, якая таксама зьяўляецца дзяржавай гарантуючай Лёкарнскій пакт шчыра выяўляе сваё задаволеньне з выступленьня Нямеччыны, бачучы ў гэтым магчымасьць знайсьці паразуменьне з Эурапэйскімі дзяржавамі ў абісынскай справе.

Рашучае і выразнае становішча заняла СССР, у разе патрэбы, выканае ўсе забавязаньня, якія накладае на яе пакт Лігі Народаў і француска-савецкі дагавор

Дыпляматы дзяржаваў, якія падпісалі Лёкарнскі пакт на нарадзе ў Лёндыне аднагалосна прызналі, што ўводзячы войска ў здэмілітарызаваную Надрэйнскую абласьць Нямеччына нарушыла як Вэрсальскі трактат, так і Лёкарнскі пакт, і перадалі справу на разгляд Лігі Народаў.

Кампрамісныя прапазыкі, якія рабіў Ідэн з мэтаю залагодзіць канфлікт, Гітлер адкінуў. На запросіны-ж Рады Лігі каб Нямеччына як зацікаўленая старана прыслала свайго прадстаўніка на паседжаньне Рады ў Лёндан, Гітлер даў прынцыпова згоду толькі пад варункам, што Нямеччына будзе карыстацца тымі самымі правамі, як і іншыя, і што адпаведныя дзяржавы прыступяць да перагавораў у справе мірных прэпазыкаў Нямеччыны.

У зьвязку з адказам Гітлера, мін. Фляндзін заявіў, што Францыя ніколі ня згодзіцца на ўзалежненьне дыскусыі над нарушэньнем Нямеччынай Лёкарнскага пакту ад згоды на абгаварываньне нямецкіх прапазык ад 7-га сакавіка і заграэіў нават выхадам Францыі з Лігі Народаў.

Рада Лігі Народаў, на паседжаньні 16 сакавіка прызнала афіцыяльна, што Нямеччына, уводзячы войска у дэмілітарызаваную Рэйнскую абласьць нарушыла вэрсальскі трактат і лёкарнскі пакт.

Адначасна пастаноўлена адказаць Нямеччыне, што яна можа прыняць удзел у паседжаньнях Рады з поўным правам дыскусыі па парушанаму пытаньню нароўні з іншымі зацікаўленымі старонамі, але бяз права галасаваньня ў справах, якія вымагаюць аднагалоснасьці. На жаданьне Гітлера атрымаць запэўненьне, што адносныя дзяржавы распачнуць з Нямеччынай перагаворы ў справе прапазык Гітлера з дн. 7 сакавіка, Рада Лігі адказала адмоўна.

У гэтакім палажэньні знаходзіцца справа, якая прыцягнула да сябе ўвагу ўсяго сьвету. Нам Беларусам, справа гэтая таксама не зьяўляецца абыякой, бо ў выпадку збройнага канфлікту, тэрыторыі Беларусі лёгка могуць стацца тэатрам вайны.

# З фронту афрыканскае вайны.

Зацятыя бойкі, якія ў працягу месяцу йшлі на паўночным фронце, галоўным чынам, у правінцыі Тігрэ, закончыліся паражкай абісынцаў. Італьянскае войска заняла ўсю правінцыю Тігрэ, аднак у тылу пастарому неспакойна. Камунікат італьянцаў аб поўным разгроме абісынскіх арміяў, як відаць, аказаўся пераўвялічаным. Бойкі прадаўжаюцца і, як гаворыць нават італьянскі афіцыяльны камунікат, армія раса Імру заўзята супраціўляецца. У гарыстым Тэмбіене ідуць баі з паасобнымі атрадамі арміяў расаў Касса і Сэйума. Выходзіць, што цяжкая паражка, аб якой гэтак крычала італьянскае камандаваньне, не зламіла ўпартасьці і духу абісынцаў. — Маральны настрой Нэгуса надзвычайны. — Абісынскае камандаваньне даносіць, што падчас апошніх баёў, італьянцы ўжывалі атрутныя газы. — Самалёты італьянцаў скінулі бомбы на горад Дэбра-Маркое ў той час, калі там быў кірмаш. Шмат забітых і раненых. — Італьянцы бамбардавалі таксама і ангельскі шпіталь. Разбурана 3 палаткі, ў адной з якіх знаходзілася саля для опэрацый. Самаходы і ўвесь знаходзіўшыйся ў іх аптэчны матэрыял зьнішчаны.

Лінія італьянскіх войск павольна пасоўваецца наперад. На спатканьне з ёй рушыла абісынская гвардыя пад камандай Нэгуса. Галоўныя-ж сілы абісынцаў пазастаюцца ў Лессі' дзе яны знаходзяцца ўжо некалькі месяцаў.

Гэтымі днямі ляталі над Адіс-Абэбай першыя італьянскія самалёты, якія аднак абмяжаваліся толькі разьведкай.

Ня гледзячы на тое, што абісынцы згадзіліся на прапазыку Лігі Народаў распачаць мірныя перагаворы і Італія таксама не адкінула гэтае прапазыкі, бойкі на фронце не спыніліся.

Падчас, як на фронце льецца кроў нявінных бязбройных жанчын, дзяцей, як бамбардуюцца шпіталі і г. д. Ліга Народаў і яе розныя камітэты толькі радзяцца і ўсё баяцца, каб не пакрыўдзіць Італіі.

У ангельскім парлямэнце, падчас дэбатаў па загранічнай палітыцы Вялікабрытаніі выступіў дэпутат рабочае партыі б. міністр Л. Шміт, які энэргічна дамагаўся ініцыятывы Англіі ў справе забароны ўвозу ў Італію нафты.

2 сакавіка сабраўся ў Жэневі „камітэт 18“, які павінен быў аканчальна заняцца справамі пашырэньня санкцыяў у адносінах да Італіі, а галоўным чынам справаю забароны прадажы Італіі нафты і яе прадуктаў, чым толькі і можна было змусіць Італію спыніць вайну. Становішча Англіі ў гэтай справе было выразнае. Мін. Ідэн заявіў, што Англія згаджаецца ўзяць удзел у нафтавых санкцыях, калі да іх далучацца і іншыя дзяржавы. Але дух Лявалё зноў запанаваў ува Францыі. Мін. Фляндэн унёс на паседжаньні прапазыку, каб раней чым камітэт 18 вынясе сваю пастанову ў справе нафтавых санкцый, яшчэ раз зьвярнуцца або праз камітэт 13, або праз Раду Лігі да ваюючых старон з прапазыкаю распачаць мірныя перагаворы. Прапазыка была прынятая і справа санкцый зноў пазасталася на мёртвым пункце. Італія гатакім чынам, як быццам зноў атрымала блаславеньне Лігі народаў на забойства нявіннага народу. Які абарот прыме справа санкцыяў сказаць зараз вельмі трудна. Усё будзе залежаць ад разьвіцьця падзеяў у самой Эўропе ў зьвязку з выступленьнем Гітлера.

## Выясьненьне.

У сувязі з выхадам часопісу „Маладая Беларусь“ зазначаем, што не згаджаемся з артыкуламі публіцыстычнага зьместу, аўтары, якіх, праводзяць думкі, не адказываючыя імкненьням шырокіх мас беларускага народу адначасна й нашым. У сувязі з гэтым зазначаем, што пры далейшым такім кірунку часопісу — супрацоўніцтва будзе немагчыма. Дакладна гэту справу выясьнім у наступным нумары.

*Максім Танк.*

*М. Васілёк.*

## СПАТКАНЬНЕ.

*(Верш чытаны на „вечары паэзыі і песьні“).*

— Ну што-ж кажы, што ў вас чуваць?—
пачаў стары пра сенажаць,
успомніў жыта і авёс...
А вочы... мокрыя ад сьлёз.

А посьля я загаварыў:
— Нічога, год ужо пражыў...
Ды не адзін сядзіць нас шмат;
прывыклі трохі і да крат...
Ну як там мама і сястра?..
Пара ўжо на зіму гарадзь...
І як там кратаіцца дзед?
Усім занясі ад нас прывет.

— Нічога, мы — то жыць жывём, —
Вось ты тут сохнеш за муром...
Я ў торбе сухароў прынёс...
а вочы мокрыя ад сьлёз...

— Не плач! Мы вернімся вясной
і выйдзем у поле грамадой,
яшчэ убачым сьвет зары, —
не плач, і ня бядуй стары!
Вясною новаю з-за крат
з сяўнёю поўнаю зярнят
нас выйдзе шмат, як цёмны бор,
на скібы чорныя разор!..

Стары, я бачу, верыць мне
і сам гавора аб вясне,
і неяк відучы падрос,
хоць вочы мокрыя ад сьлёз.

МАКСІМ ТАНК.

Вільня 25.II.36 г.

# „Нёманская“ справа.

У асадзе „Нёман“ жывець каля паўтары тысячы душ. З гэтага ліку больш пяцісот зьяўляецца карміцелямі семьяў і працуе ў шклянай гуце п. Стольле. Усе хаты — гэта ўласнасьць гуты. Апрача хатаў у асадзе ёсьць касьцёл, карчма і грамадзкая „убезпечальня“.

Нібыто прыяжджае і пан дохтар на гадзіну ці дзве, але перадусім прымае ўрадоўцаў гуты, а работнікі могуць з хваробай пачакаць. Работнікі маюць здароўе. Калі баліць каму зуб, затручвае саляным квасам. Крышыцца, але кажуць перастае балець..

Нашто ж работніку лякарства, калі ён ня мае чаго есьці? У гуце Стольля цяжка зарабіць на хлеб. Кабеты зарабляюць па 90 гр. ў дзень, мужчыны крыху больш...

У іншых гутах выкідаюць работнікаў з прычыны нястачы працы, у гуце пана Стольле рабочыя працуюць па 12 і 14 гадзін на суткі. У нядзелю таксама.

З распаленай печы да 1400 градусаў выбухае жар. Замест паветра легкія уцягваюць са сьвістам густую душную галярэту. У галаву б'е кроў.

А пры выплатах дастаецца толькі за восем гадзін ў дзень. Тут фабрыка пільна перасьцярагае васьмі-гадзінны дзень працы. Ані аднэй гадзіны надлічбовай не аплачвае. („Front robotniczy“).

---

— „Калі ня верыце, што ў рамках капіталістычнага ладу можна трактаваць прыватную ўласнасьць, як грамадзкую службу, каторая нясе за сабой міласьць і справядлівасьць, калі хочаце пабачыць як выглядае у практыцы хрысьціянскі салідарызм, то едзьце да „Нёмна“, — такія словы можна пачуць з вуснаў якогась віленскага ксяндза.

І сапраўды п. Стольле гэта прыкладны каталік. Яго галоўная грамадзкая апора і аружжа ідэолёгічнага падняволеньня работнікаў — мяйсцовы ксёндз, каторы ўсе свае сілы пакладае на тое, каб разбудзіць сярод работнікаў паказаную папскай энцыклікай міласьць да „працадаўцы“. Касцельная амбона сталася арганічнай, складовай часткай рэнтоўнага прадпрыемства п. Стольля.

Пан Стольле не шкадуе грошаў на закладаньне розных брацтваў, садаліцыяў і гарцэрскіх дружынаў, прывозіць прэлегэнтаў нават з Вільні. І таму работнікі маюць больш духовае стравы, чымсь хлеба. Вучаць іх касьцельным догматам, малююць пакору святых, чытаюць вынятка з пабожных кніжак, але ніхто з гэтых апосталаў Каталіцкай Акцыі ня чытае ім ўставаў, якія абавязваюць фабрыканта, ніхто ня вучыць спосабу змаганьня за людзкія умовы працы і заплаты.

(„Poprostu“).

---

2-га сакавіка ў шклянай гуце „Нёман“ выбухла забастоўка. Рабочыя дамагаюцца васьмігадзіннага дня працы і падвыжкі заработкаў, прызнаваньня работніцкіх дэлегацыяў, каторыя маглі-б працівіцца дзікім мэтадам выкіданьня работнікаў на брук дырэктарам фабрыкі. („Курьер Віленскі“).

Бастуе 670 асобаў. Прычына забастоўкі нарушэньне уставадаўства працы ўласьнікам гуты, напрыклад, замест 8 гадз. для працы работнікі працавалі па 16—18 гадзін на суткі, атрымоўваючы нармальную заплату 2 зл. Кабеты маюць ад 80—90 гр., мужчыны ад 1 зл. 10 гр. да паўтара злота. Майстры перадусім тые, што падабаюцца прадпрыемцы, атрымоўваюць да 12 зл, у дзень.

Бастуючыя дамагаюцца: прыняць звольненых рабочых, 8-мі гадзіннага дня працы і падвышэньня платы для нізшай катэгорыі работнікаў і увядзеньня прадбачаных уставадаўствам платных урлёпаў.

Акалічныя вёскі жыўнасьцяй памагаюць бастуючым. У асяродзьдзях работніцкіх на іх зьбіраюць грошы,

Толькі мяйсцовы ксёндз абураецца „бунтам“ работнікаў і заклікае да ламаньня забастоўкі.

## Забава ў вясковай вуліцы.

*(Верш чытаны на „вечары паэзыі і песьні“).*

Падкраўшыся разорамі
З палёў, дзе была схована,
Сыпнула ночка зорамі,
Як з рэшата вясковага.

Касмату грыву зьвесіла,
К старэнькім хаткам туліцца
Ды песьню з ветрам весела
Прысьвіснула па вуліцы.

У шыбы хат прамёрзшыя
Сьмех коціць дзікім рогатам, —
Сабачцы морду зморшчыла,
Скавыча пад парогам той.

На вечарыну ў вуліцы
Паклікала ўсё роднае:
Мароз, цямра, мяцеліца —
Ды злыбяда галодная

Забаву ладзіць буйную,
Ахвяры ловіць невадам,
У кожнай хатцы ёсьць амаль
Гасьцям галодным жніва там.

Прыходзьце й вы—вы слаўныя,
Хто богу крыўды моліцца.
Вас кліча ночка цёмная
На баль ў сялянскай вуліцы.

Тут ёсьць над чым пацешыцца,
Чый модны густ.. Каму ня лень
Хутчэй ледзь—не спазьнецеся!
Бо ўжо зарніца будзіць дзень...

Ён буры — песьняй, — веру я!
Браты! — праменнай моваю
На струнах сонца выйграе
Жыцьцю — законы новыя!..

М. ВАСІЛЁК.

## Попярак загонаў.

1.

Яшчэ да дня прыйшоў вецер густы, вясеньні. Доўга хадзіў ён па балоце., па выгарах, атрасаючы сьнег і лёд з гарбатага імшарнага сасоньніку.

І хоць засьценак Гарбы стаяў за чорнай сьцяной лесу — вецер заглянуў пад кожную страху; сьмяяўся ў камінах, падпаўзаў пад непрычыняныя шчыльна вароты ў хлеў, дзе на зьмерзшым гнаі ляжала карова лянів а пераж оўваючы трасянку. Карова была цельная.

Сымон не раз уставаў ноччу; запаліваў ліхтар і заходзіў у хлеў; зьбіраў расьцярушаную па хлеве салому і час ад часу адзываўся да каровы:

— Ах ты, рагатая!.. ну еш! чаго чмыхаеш?—Карова пераставала жаваць жвачку, не ўстаючы, працягівала доўгую, худую шыю і цёплым, шаршавым языком лізала руку Сымона.

— Ацелішся — тады будзе з кім гаварыць... — бурчэў Сымон на карову і яшчэ раз акінуўшы вокам гаспадара пусты з надгніўшымі сьценамі хлеў, выйшаў на двор.

Гаспадарка ў Сымона была малая. Па зямлі быў ён васьмушнікам; карова, трое дзяцей і сам з жонкай. Каня Сымон даўна ня меў. Вясной пазычаў уЯкіма — паўвалочніка, а за гэта яму адрабляў з жонкай.

Не хацелася ісьці ў хату, затрымаўся Сымон на дварэ. Засьценак яшчэ спаў, толькі ў лічаных хатках, як бяльмом зацягненыя, дзе-не-дзе глядзелі невялікія вокны.

Стаяў. З балота, з поля рваў вецер, і прыемна было адчуваць, як ён б'ецца ў твар, у грудзі мяккімі вясеньнімі крыльлямі.

Так гэта быў той вецер, што зрываў з загонаў белыя палотны сьнегу, што кожнай вясной псуў падгніўшую страху Сымонавай хаты; гэта быў такі вецер, які кожную вясну прыходзіў неспадзявана з-за паросшага лазой балота, часам ад Белі, ці ад шырокага разьлезлага гасьцінца.

Днела. Неба як на дзіва было пагоднае.

2.

Весяла гарэлі ў печы дровы. Кацярына вялікай драўнянай лыжкай разьмешвала ў гаршку чорнае, зьмяшанае з мукой, з пасеямі, бульбянае цеста.

З прыпячку у зрэбных падзёртых кашулях, дзеці нецярпліва сьлядзілі за рухам лыжкі.

Сымон уцягваў, у кнатовыя лапці новыя аборы і час ад часу паглядаў у вакно.

— Эт, дурань ты і ўсё!—адазваўся Сымон да бабы, якая стоючы каля печы ціха усхліпывала і выцірала сьлёзы канцом сіняй завязанай пад бараду хусткі.

— Во кажуць, Грышка памёр. І чаго яму здаецца было паміраць... Падарваўся. Падчапіў корч нарогам, думаў вывярнуць. Вывярнуў і сеў на яго мейсца сам...

У хаце ціха. Сымон добра ведае, што гавора не аб тым аб чым трэба. Праўда, шкада каровы, а тут апошнюю вядзі на кірмаш. Трэба было выгадаваць... Сам даглядаў, не адну ноч не даспаў, а цяпер вядзі. Трэба і падаткі і насевак і хлеба. Сяньня зямлю будзім грызьці? І хоць ні Сымон ні Кацярына і словам сяньня не ўспаміналі аб карове, але кожны з іх ведаў, што крыецца за гэтай цішынёй.

І толькі тады, як Сымон узяў з лавы повад, штось гарачае, нібы клубок, гадамі наматаных сьлёз, падкаціўся да сэрца затрымаўся у грудзёх Кацярыны. Можа нагрэтыя агнём ад печы пасыпаліся, як з вугалья, з вачэй гарачыя сьлёзы. Нат не магла іх ўстрымаць сіняй хусткай.

— Ну, што гэта паможа...

Сымон ведаў што трэба нешта сказаць. — Будзім гадаваць цялё, цялё засталося. А тут і падаткі і насевак і хлеб... А то, як малая...

Ды і слоў неяк, не хапала. Выйшаў.

Шырокім гасьцінцам ішоў тлум, цягнуліся на кірмаш хурманкі. Сонца моцна прыпякала.

— На непагоду пэўна - думаў Сымон вядучы гасьцінцам карову.

А там дзе сінь неба пераходзіла ў зялёную, густую вясеньнюю рунь жыта, клінам уразалася хмара; памалу з глухімі грымотамі, нібы хтось абухом яе падганяў, напаўзала на гасьцінец.

(Працяг будзе).

МАКСІМ ТАНК.

Вільня, Сакавік 1936 г.

